Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі
1 радок за тэкстам 2 рублі.
3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Панядзелак 16 чэрвеня 1919 г. № 22.

## Беларускі зьезд 9-10 чэрвеня.*)

Грамадзянінам Я. Чэрэпуком ўносіцца прапазыцыя прывітаць і выразіць веру Радзе Народных Міністраў Б. Н. Р.

Зьезд ухваліў гэта гучнымі воплескамі на гонар сваіх міністраў кабінэта Луцкевіча і пастанавіў паслаць ім тэлеграму у такой форме: «Беларускі Зьезд Горадзеншчыны і Віленшчыны вітае працу вашу па абароне незалежнасьці і непадзельнасьці Б. Н. Р.

Справа гэтая ёсьць справаю ўсяго народу беларускага, які сьцяною стане на абарону сваіх найпільнейшых нацыянальных інтэрэсаў».

Затым гр. К. Душэўскім быў зроблен даклад аб коопэрацыі, які пазнаёміў зьезд з коопэратыўным рухам на Захадзе Эўропы, дзе ён выліўся ужо у вялікую рэальную сілу матэр'яльную, а так сама і у Сыбіру, дзе коопэрацыя мае вялікае значэньне ў экономічным жыцьцю краю.

Пры гэтым была прынята вось якая рэзолюцыя:

«Зважыўшы на тое, што коопэрацыя у апошні час адыгрывае вялікае значэньне у экономічным быту народаў і разам выяўляе вялікую народную карысьць усяму грамадзянству, зьезд лічыць патрэбным адкрываць свае нацыянальные коопэратывы і заклікае горача усё селянство і гарадзкіх жыхароў падтрымліваць і пашыраць іх».

Даклад аб выдавецтве зрабіў гр. Станкевіч, які пазнакоміў зьезд з тэй працай якая вядзецца цяпер Беларускім Выдавецкім Таварыствам у Вільні.

Даклад аб прасьвеце далажыў гр. Кахановіч; ён нарысаваў моцнымі штрыхамі абраз той беларускай школы, якая супраўды павінна быць—гэта школа нацыянальная—у роднай беларускай мове, у якой дзеці знайшлі-бы чыстую крыніцу для будучыны.

Другіе прамоўцы, як Грыб і Чэрэпук, заклікалі вучыцялёў да працы ў народзе у стварэньні ўсюды па вёсках «Беларускіх Хат», якія вялі-бы культурна-прасьветную работу.

Зьездам была прынята рэзолюцыя дакладчыка Кахановіча: «Беларускі Зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны па пытаньню аб народнай асвеце пастанаўляе: «Беларускія школы ўсіх тыпаў і ступеняў павінны як найхутчэй быць заложаны на абшарах Горадзеншчыны і Віленшчыны, як і ўва ўсей Беларусі. Константыруючы не-маль поўную адсутнасьць у Горадзеншчыне і Віленшчыне беларускіх школ, зьезд пастанаўляе даручыць спэцыальнай камісыі з 3—5 чэлавек, выбранай Радай Зьезду:

1) Адчыніць у Горадні і Вільні краткасрочныя беларускія вучыцельскія курсы па апрацованай камісыяй праграме, стварыць кадры вучыцялёў-беларусаў дзеля магчымасьці як найхутчэй правесьці у жыцьцё поўную нацыяналізацыю ніжэйшай народнай школы на Беларусі.

2) Апрацаваць школьную сець, як на вёсках і мясьцечках, так і па гарадох.

3) Пераабразаваць істнуючыя расейскія вучыцельскія школы у беларускія з выкладаньням у іх навук ў беларускай мове.

4) Апрацаваць сыстэму праабразаваньня розных іншых школ на Беларусі, прадназначаных дзеля беларускага народа, у каторых лекцыі выкладаюцца не ў беларускай мове, каб гэтыя школы маглі, як найхутчэй, стаць беларускімі—перш па духу, а потым і па мове, на якой павінны выкладацца навукі.

5) Вядучы барацьбу проціў русыфікацыі, каторая сыстэматычна праводзілася у нашым краю да апошняга часу глаўным чынам праз школу, зьезд зварочвае ня меньшую сваю увагу і на тое, што у нашым краю — асабліва на захад ад старага расейска-нямецкага фронту—дзякуючы вайне, замест расейскіх школ пачалі шырыцца у Горадзеншчыне і Віленшчыне польскія школы, полёнізуючы беларускае селянство. Зьезд катэгарычна высказываецца проціў полёнізацыі Беларусі праз польскія школы і вымагае ад польскай окупацыйнай ўлады спыненьня яе.

Пасьля гэтага гр. Грыбам была агалошана дэклярацыя Беларускае партыі соцыялістаў-рэвалюцыанэраў.

Гр. Янка Чэрэпук ад імені партыі эс-эраў і Віленска-Горадзенскага Дэмакратычна-Рэспубліканскага Блоку ўнёс протэст процiў арыштаў беларускіх нацыянальных дзеячоў:

1) Тамаша Кошэўніка—з Малаховіч (Горадз. пав.).

2) Грыгора Казячага — з Скідэльскага.

3) Ляхоўскага.

4) Дзекуць—Малея.

5) Меленеца Юркі—з Вялікай Берастовіцы.

6) Дзенюсюка—з Горліцкай вол.

Была прынята усімі такая рэзолюцыя даложаная Чэрэпуком:

«Беларускі Зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны энэргічна пратэстуе процiў арыштаў беларускіх дзеячоў і разгона беларускіх нацыянальных організацый на абшары Горадзеншчыны польскай окупацыйнай уладаю.

Дзеля гэтага Зьезд звертаецца да польскага Ураду, каб як найхутчэй былі выпушчаны з турмы беларускія дзеячы і праз гэта ім зноў была дана вольнасьць працаваць для бацькаўшчыны Беларусі».

(*Далей будзе*).

*) Гл. № 21.

## З ПАДАРОЖЫ.

Мястэчка Шэрашэво Гарадн. губ. ляжыць на этнографічным рубяжы Беларусі з Украінай.

Першая, што зьвертае увагу беларуса віленчыка, гэта мясцовая мова. Ня трудна разпазнаць, што гэта адна з гутарак (дыалектаў) беларускае мовы, але сільнае оканьне і іншыя асобнасьці вельмі зьбліжаюць гутарку з украінскай. Есьць аснова думаць, што калі мы беларусы ў будучыне не дараўняем украінцам у разьвіцьці нашага школьніцтва, то гэты рубеж Беларусі можа хутка зукраінізавацца.

Чыстата і парадак у хатах таксама не праходзе без увагі, асабліва калі зраўняць з некаторымі куткамі нашага краю, як напр. Случчына, гдзе хаты цёмныя і брудныя, памост мыецца раз у год перад Вялікаднем у тым пераконаньню, што ад частага мыцьця памост гніе.

Тут, у Шэрашэві зусім наадварот: хаты абшырныя, сьветлыя, сьцены і печы бялюсенькія—рэдка гдзе пабачым копаць, або павучыньне, памост і лаўкі чыстыя, стол засланы прыгожым саматканым настольнікам. У такой хаце прыемна і супачыць пасьля цяжкой працы.

Нельга памінуць без пахвалы дзяўчатак Шэрашэйскіх. Ня рэдка можна спаткаць па мястэчках дзяўчат, каторыя на гвалт хочуць у кожнай рэчы быць падобнымі па «паненак» — адзяюцца быццам то стройна, але без найменшага густу. Ходзяць так дэлікатна, што яйко палажы на галаве — не ўпадзе. Працы простай, гаспадарскай такія паненкі саромяюцца, як чагосьці брыдкога і злога.

Шэрашэўскім дзяўчаткам, разьвітым больш чымся магчыма у такім глухім куточку, як гэта мястэчка і пры такіх варунках жыцьця якія маюць, ня можна адмовіць пэўнай долі інтэлігенцыі. Чуваць у іх здаровую сялянскую душу, каторай не захапіла тая гніль маральная, якая ўелася у душы маладзёжы прыфрантовых ваколіц. У сьвяточныя дні пабачым іх прыгожа, чысьценька апранутых, у чырвоных або белых хустачках і яны табе «апаведаціммуць», як заўчора цяжка працавала, рэжучы дошкі на будову хаты і аб чым думала учора, пасучы каровак цэлы дзень. У гутарцы не ужываюць скалечанай чужой мовы, а гавораць толькі сваёй роднай беларускай.

Парадным строям маладзіц гэта нацыянальная касьцюмы, каторыя заўсёды можна пабачыць у сьвяткі, або на вясельлі. Ня рознючыся вельмі ад касьцюмаў іншых губэрняў, нацыянальны строй адзначаецца арыгінальным і замысловатым спосабам завязываньня хусьцін на галаве.

Успомніўшы аб вясельлі, варта прыкмецiць, што навет у багацейшых шляхоцкіх семьях вясельле адбываецца з усімі абычаёвымі абрадамі на каторых сьпеваюцца беларускія і украінскія сьпевы. Праўда — часта і польскія песьні чуваць, але як-жа перакручываюць у іх словы, каторых большасьць не разумеюць. Навет хочучы передражніць польскую мову,—так не патрапіш. Беларускія гульні і танцы уносяць сабой больш жыцьця і вясёласьці, чымся нямецкія вальцы і польскія кракавякі.

На адным вясельлі, на каторым давялося мне быць, хлопцы сьпявалі песьні. Адзін з іх зацягнуў рэвалюцыйную расейскую песьню. У міг усе захапілі і паняслася гэта песьня з такой сілай, што гледзючы на гэта дзіву давалася, бо там, скуль я нядаўна вырвалася, гэтыя песьні сьпяваныя пад прынукай даўно утрацілі сваё значэньне, сваю магутнасьць і красу. На адзін водгалас гэтай песьні чалавека пранімаў жах і трывога чагосьці страшнога і зьверскага, а тут столькі душы укладалі, сьпяваючы гэтыя песьні крыві і свабоды. А калі пачулі яны нязнаную тут беларускую марсыльянку, то-ж вочы іх гарэлі, здаецца, палькалі гэту мэлёдыю і словы. Гэта ўсё таму, што тут яны не пераживалі таго, што мы там пераживалі.

Невялікая лічба нашай інтэлігенцыі, вышаўшай з народу вертаецца зноў у народ, нясучы з сабой ім сьвет праўды. Заўсёды варункі так складаюцца, што яны змушаны працы шукаць па вялікіх местах, а нават і на чужыне, але ёсьць такія, каторыя выракшыся уцех жыцьцёвых і шчасьця асабістага, жыцьцё сваё пасьвяцілі для сьвятой справы адраджэньня бацькаўшчыны. Яны выбіраюць такую дарогу у жыцьці, хоць і бязмерна цяжкую, каторая бы як найбліжэй злучала іх з народам.

Такім цэнным працаўніком у гэтым мястэчку, шчырым сынам беларусі, каторы ціха, бяз розгаласу, ужо больш як дзесяць год няўпынна працуе — гэта кс. Фр. Рамэйка.

Ня буду вылічаць усяго таго, што ён зрабіў за ўвесь час сваей працы нагул, зазначу толькі тое значэньне яго уплыву на Шэрашэўцаў. Дзякуючы яму, маладзёж шануе сваю мову і звычаі, не закідае сваіх строяў нацыянальных, ахвотна горніцца да прасьветы, чытаюць беларускую літэратуру і арганізуюць беларускі хор.

Прыпомнілася мне пры гэтым праца, якую вёў зусім у іншым кірунку кс. Э. у Слуцкім павеце. Сілай карчаваў усе звычаі народныя: да споведзі не прынімаў моладзь, каторая на купальлі гуляла, кары накладаў на старых, што дзяды спраўлялі, за песьні і вопраткі народныя з амбоны лаяў.

Цяжка было працаваць кс. Рамэйку аднаму бяз маральнай паддзержкі і парады з іншымі, працуючымі на гэтым полю, маючы каля сябе гэтулька ворагаў нашай справы. Столька цяжару прышлося перанясьці, прыкрасьці пераждаць. Аднак не зважаючы на гэта, адкрываў школы, прытулкі беларускія, катэхізацыю дзяцей перад першай споведзьдзю ў беларускай вёў мове. У касьцеле часта Бога хваляць песьнямі у той-жа роднай мове. За тое «Kurjer Polski» назваў яго шкоднікам для справы народовай. Пішa быццам то кс. Р. у касьцёл ўводзе расейскую мову, зумысьля замалёвывае польскіе надпісы, (каторыя былі перад грунтоўным рэмонтам касьцёла) і робіць шмат іншых непраўдзівых і несправядлівых закідаў. Месцовыя польскія шовіністы пагаварываюць аб тым, каб выслаць яго ў саму Польшчу, дзе яго могуць добра правучыць.

У зборах сваіх кс. Рамэйко мае 150 цэнных дакумэнтаў з XVI і XVII веку пісаных у беларускай мове, каторыя хоча ахвяраваць у Беларускі нацыянальны музэй.

У канцы красавіка арганісты Шерашэўскага касьцёла атрымаў загад ад сэкрэтара начальніка вокруга, каб той абавяз-

---

## Панская сучка*)

III.

— Ну, войт, вязеш бабу?—сустрэў Рымарчука каля замку глаўны аконам пан Міхал.

Войт доўга меркаваў, як адказаць.

— А ці з далёкіх ні аднэй не прывязьлі, вашмосьць?—спытаўся ён.

— Хто-ж павінен ведаць? Для чога ёсьць войт? Ты езьдзіў па бліжэйшую?

— Я, так, вашмосьць. Да вечара, пане, прывязуць бабу.

— А шчаняты дагэтуль ня кормленыя! Сьцеражыся, войт! Князь не падзівіць, што ты войт.

А князь сядзеў на кукярэчках ля лубачкі у пакою шчанятак і бедаваў. Яшчэ трое шаволіліся і барохталіся, жаласна канькалі і лезьлі адзін на аднаго. А самы дробненькі ляжаў нярухома, у бачку, закруціў галоўку і выцягнуў лапкі. Ен здыхаў. Стаялі сподачкі з малаком. Стаялі пачціvenька ля дзьвярэй сівы камэрдынер і засмутнелы псар Яська.

— Мае гаротныя дзэіняткі! Мае бяздольныя дробныя цюцічкі, — квохаў князь, гладзячы мякінькую шэрсткую, і з любасьцю пачуваў, як піхаюць у яго руку голыя мордачкі і жаласна хныкаюць.

— Ну, што-ж баба? Дзе-ж баба? — раздражнёна пытаўся князь, ня гледзячы на людзей.

— Няма яшчэ, ясьневяльможны пане, — казаў лакей, а Яська гмурыўся і маўчаў.

— Хто паехаў па бліжэйшую?

— Сам войт Рымарчук.

— І гэнага старога дурня дагэтуль няма?

Чаляздінцы маўчалі.

— Зараз-жа даведацца і прыслаць яго сюды. У, бэлдасы,—саўсім выходзіў князь з прывычаёнай ангельскай раўнаважнасьці, даваў волю інстынктам свайго знакамітага дзеда, крывасмока хлопаў і давіцеля гайдамакаў. — І пана Міхала гукнуць,—дадаў ён.

Калі узьвіліся устрывожаны аконам і дрыжачы Рымарчук, князь быў грозен. Від наліўся крывёю, мускул на шчацэ скакаў, нос пашызеў.

— Дзівіся, дзівіся, — пацягнуў ён войта за палу жупана. — Ты замардаваў іх галоднаю сьмерцяю. Яны ўміраюць, гэты ужо канае. Табе няблізкае чуцьцё міласьлівасьці, закаржэлы хлоп. Ты праваладзіў цалюткі дзень дарма, пся крэў твоя. Ты надта даўна войтам, прыкры сьмерд. Ты прызвык лупцаваць хлопаў, і табе — нічым-чаценька кавен чыньне бедных драбнютак мае бяздольнае Дзэі.—Князь намагаўся стрымацца і ня мог. — Да дзьяблаў гэтага нягожага лайдака, — неспадзевана для сябе зароў ён, зьвярнуўшыся да пана Міхала, — у найдальшую вёску, простым хлопам, брыдкага, пад пільнае дагляданьне старасты.

І пусьціўшы Рымарчука, галасіў:

— Вэн! Далоў з воч маіх, праклятьі сьмерд!

Войт, зьнямеўшы, паплёўся за дзьверы.

— Слухаю ясьневяльможнага пана —пракулдыячы пан Міхал.

— Слухаеце? Вы — слухаеце! Дзела трэба рабіць. Ідзіце сабе...

*) Гл. № 20 і 21.

кова кожную нядзелю падчас імшы сьпяваў польскі гымн народны «Boże coś Polskę». Ня учуўшы ў першую нядзелю гымну, прыказаў арэштаваць арганістага і прадзяржаўшы яго шмат часу ў кутузцы стараўся вымагчы сілай дазнаньне быццам гэта ксёндз забараніў сьпяваць. Пераканаўшыся, што кс. Р. ня ведаў зусім аб такім загадзе і сэкратар напісаў афіцыяльны прыказ з урадавай печаткаю аб абавязковым спаўненьні вышэй памянёнага загаду. На гэта кс. Р. адказаў начальніку, што ў справах касьцельных мае сваю вышэйшую духоўную уладу, каторай павінен слухаць, і адтуль падобнага прыказа яшчэ не атрымаў, а цывільная улада распаражацца парадкам касьцельнага набажэнства не мае права.

Зусім што іншае мы бачым у касьцелі Берасьцейскім, гдзе касьцёл робіць ўражаньне клюбу палітычнага. Немаль што на сьценах касьцёла разлеплены розныя адозвы польскія і прыказы урадовыя. Пад час Мшы Св. на Ушэсьце там, гдзе павінны выпаўняцца толькі лацінскія сьпевы — раздаюцца з хораў польскія гымны, з амбоны там робіцца трыбуна палітычная, з казаньня, каторае трывала поўгадзіны, 10 мінут было гаворана на тэму рэлігійную, а 20 — аб сучасным мамэнце палітычным, аб патрэбе якнайхутчэйшага прылучэньня места Берасьця на вечныя часы да каралеўства польскага, бо места гэта ляжыць на польскай зямлі з жыхарамі чыстакроўнымі палякамі. (Акт прылучэньня м. Берэсьця да Польшчы, як чула з казальніцы, мае быць каля 10 чэрвеня).

Цікава, як робяцца такія урачыстыя акты прылучэньня. Вось абразок: адзін панок, выскачыўшы з касьцёла, падбегае да другога—«Ведаеш, братка, спаймаў дзьве птушкі—патрэбны будуць, толькі трэба іх добра накруціць—вазьміся ты за гэта, бо я праўду сказаць, ня ўмею накручаваць».

Або як у Пружанах вынасілі разалюцію далучаньня да Польшчы і выбіралі паслоў у Сойм.

Сабралося колькі паноў землеўласьнікаў польскіх, ваенных крыху, колькі дэвотак, служачых у ўрадавых установах, і во «Пружанскі павет выразіў жаданьне далучэньня ў склад польскага паньства», а сяляне на вёсках і мястэчках і дагэтуль ня ведаюць, што яны самі высказалі гэткае пажаданьне.

Аб адносінах польскай улады да народа і сьвядомых беларусаў, аб тых зьдзеках, якія пераносяць — можа іншым разам спакайней удасца напісаць, цяпер не змагу. Там навет і гаварыць так соладка ня ўмеюць аб роўнасьці і братэрстве народаў, як тут у Вільні гавораць, а тут у Вільні пекна гавораць—дужа хораша паслухаць можна, а навет даюць і абяцанкі-цацанкі, каб некатарым была радасьць.

П—нка.

абезаружываюць сялянскія банды, рабуючыя Радзівілова. Пад Стырам цяжкія бойкі з ворагам.

### Весткі з фронта.

Пасьля здабыцьця легіонамі м. Міра (Навагрудзкага павету) і Смаргоні, далейшае іх пасуваньне пакуль што застанавілася.

Вайна на гэтых фронтах мае цягучы пазіцыйны характ р.

### Калі немцы павядуць наступленьне на Польшчу.

Падарэўскі і прадстаўнікі Антанты на конферэнцыі пастанавілі абвесьціць блёкаду нямецкіх портаў, калі немцы павядуць наступленьне на Польшчу.

### Ужо не 15 чэрвеня, а 1 ліпня.

Можно спадзевацца, што немцы падпішуць мірную умову не к 15 чэрвеню, а к 1-му ліпню.

### Антанта афяравала.

На долю Польшчы выпала з агульнай лічбы 100 лёкаматываў і 1000 вагоноў, аддадзеных немцамі коаліцыі.

### Перагаворы палякоў з украінцамі.

Дзеля перагавораў з украінцамі палякамі назначаны ген. Родзевіч. Перагаворы ужо пачаліся 7 чэрвеня.

### Пад Петраградам.

Эстонскія войскі атагналі бальшавікаў, атакуючых Гатчыну. У ваколіцы Вострава паважныя бойкі. Эстонскія войскі дайшлі недалёка Крэйцбурга.

### Калчак прымае варункі Антанты.

Калчак прызнае варункі Антанты. Ен не знаходзіць ніякай труднасьці ў абразаваньні новых дзяржаў і згаджаецца датрымаць усе абавязкі і даўгі Расейскага ураду, аж да бальшавіцкага ураду 5 лістапада 1917 году.

# Апошнія навіны.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*14 чэрвеня.*

### Літоўска-Бларускі фронт.

Польскія войскі разьбілі бальшавікоў у Валажыне, дзе узялі некалькі дзесяткаў у палон і захапілі 4 кулямёты.

На паўдзён-усход ад Смаргоні узята Бёніца. На заходняй пазыцыі немцы распачалі эвакуацыю Сувальшчыны і Аўгустаўскага.

### Фронт Палескі.

Без парамен.

### Фронт Галіцыйска-Валынскі.

У районе Тлумача польскія войскі

І князь сам выдаліўся у пакоі. Пан Міхал засіпеў што сьці на камэрдынера, на Яську, пасыкнуўся быў да шчанят і вопрамець рынуўся з замка.

Перапуд пайшоў сярод чэлядзі і чорных людзей. Забегалі туды-сюды з ліхтарамі. Зазьвінелі балабончыкамі хамуты. Сядалі вершнікі, гаўкалі сабакі. Пан Міхал кідаўся па двару і сыпаў праклянаньні і тэўхалі направа і налева. Паскакалі пасланцы ува ўсе бакі сустрачаць мамак Гайдук памчаўся у саначках на скараходзе па Тацяну. Войт сядзеў у пекарні, як туча. Ніхто ня важыўся умаўляць его. А ён яшчэ ня мог дасканальне уцяміць, што было, і прывычаіцца. Адна думка сьвердліла галаву. Як ён мог так зблагавацьі? Паехаў сам-а-сам па бабу і ня прывёз. Як ён ня сьцяміў тады? Але ужо не паправіць, прапаў... Пан Міхал, зірнуўшы на мамэнт, грэбліва і зларадасна ёхапіў яго паглядам і бурканў: «Пся крэў! Наробіў бяды. Будзеш ты цяпер ведаць у мяне».

Пад поўнач прывязлі Турботную і урынулі к шчанюкам. А пад раньне і тыя трое здохлі.

Увесь замак ведаў і прыцішыўся перад гразою, чакаў князеўскага абуджэньня.

І князь прачнуўся.

— Прачнуўся, прачнуўся, —зашасьцела па ўсіх закавулках замка, пранясьлося па двару і ў людзкой.

Князь у халаце прайшоў да шчанятак. Яго перакруціла: брыдкая, брудная, зарумзаная бабішча забілася ў вугол, як сава. Падхапілася і рушыла цалаваць князю у руку. Ен з гідасьцю адхапіў і схаваў рукі за сьпіну. З нецярплівай цікавасьцю падыйшоў да лубачкі і проста здубеў: гідкія, чым-сьці аблітыя, ускалмачаныя, з вялізнымі жыватамі, раськірэчылі каляныя лапкі, ляжалі няжывыя дзеці сьлічнай Дэзі!

Моўчкі пайшоў магнат у кабінэт, плёснуў у ладкі і загадаў гукнуць аконама.

— Ведаеце? — каротка спытаўся ён і ня вітаўся, калі прадстануў пан Міхал.

— Ведаю, пане ясьневяльможны, няшчасьце.

— Чаму гэта?

— Трэба уважаць, баба абкарміла іх сваім папсуваным малаком, пане ясьневяльможны.

— Абкарміла? Ды як-жа яна пасьмела?!. Можа быць наўмысьля? Можа быць чуцьцё пакрыўджанае маткі? О, якая грубасьць, якая нялюдзкасьць у гэным дзікунскім вугле. А можа быць і распушчэнства? Так, так, безумоўна, распушчэнства. Тут усе распусьціліся. Распусьціўся войт, распусьцілася чэлядзь, хлопы... Я ня ведаю, для чога я маю аконама. Дзе выкапалі гэтую страшную бабу? Гэтую забойцу. У яе выгляд праўдзівай ведзьмы! Абкарміла, ха, ха! Накарміце-ж яе самую так, каб аж пяць папрасіла. Можаце ісьці. Падбадрыце распушчонікаў. Ага... узвараціць вэтэрынара Будзьку: няхай дасьледуе, чаму акалелі шчанюкі? Закапаць іх разам з Дэзі. На памятніку высячы яшчэ колькі слоў,—вось, я злажыў.

Князь зморанаю рукою працягнуў верш на сьмертухну сучкі са шчанятамі.

М. Г.

(*Канец будзе*).

